Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 3 сакавіка 1999 г. № 24 (555) Кошт свабодны

## Беларусь паставіць зброю на Балканы

**Сёння з афіцыйным візітам у Мінск прыбывае міністр замежных справаў Югаславіі Жывадзін Йованавіч.**

У яго запланаваныя сустрэчы з прэзідэнтам Лукашэнкам, дзяржсакратаром Савета бяспекі Віктарам Шэйманам і міністрам абароны Аляксандрам Чумаковым.

Падчас перамоваў будзе абмеркаваная сітуацыя ў Косаве. Як вядома з папярэдніх заяваў, прэзідэнт Лукашэнка гатовы аказаць Югаславіі *«усялякую дапамогу, у тым ліку ваенную, прадаставіць самую сучасную зброю»*. Намеры беларускага боку не памяняліся. Кіраўнік міжнароднай камісіі палаты прадстаўнікоў Аляксандр Козыр заявіў, што на перамовах з міністрам Йованавічам размова пойдзе *«пра магчымыя пастаўкі ўзбраенняў у Югаславію»*.

**А.Д.**

## Падарунак Філарэту

**28 лютага СП «Юніян Мотарс», афіцыйны дылер «Форд Мотар Кампані» на тэрыторыі Беларусі, падаравала Экзархату праваслаўнай царквы новы аўтамабіль «Форд Транзіт» беларускай вытворчасці.**

На афіцыйнай цырымоніі ўручэння прысутнічалі прэзідэнт СП «Юніян Мотарс» Аляксей Ваганаў, генеральны дырэктар аўтамабільнага завода «Форд Юніян» Ніл Кэмпбэл і кіраўнік беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Філарэт. На новым 12-мясцовым «Фордзе Транзіце» мітрапаліт будзе наведваць аддаленыя прыходы, таксама на гэтай машыне будуць ездзіць прафесары духоўнай семінарыі, якія выкладаюць у Жыровіцкім манастыры (Гродзенская вобласць). «Гэты падарунак паслужыць добрым пачаткам у больш прадукцыйнай працы пасля некалькіх месяцаў эканамічнага крызісу», — адзначыў Аляксей Ваганаў.

*БелаПАН*

## Бацька стаў дзедам

**У мінулую суботу 19-гадовая Лілія Лукашэнка, нявестка беларускага прэзідэнта, нарадзіла дачку.**

Дзяўчынка з'явілася на свет здаровай і зараз адчувае сябе добра. Віктар Лукашэнка шчаслівы, што стаў бацькам. Кожны дзень яго бачаць у раддоме. Аляксандр Лукашэнка, які 27 лютага стаў дзедам, унучку з нявесткай яшчэ не наведваў.

Радзільнае аддзяленне 5-ай гарадской бальніцы знаходзіцца на вуліцы Народнай, у Завадскім раёне. Жывуць тут у асноўным людзі простыя, небагатыя. Адпаведна і будынак раддома — хрушчоўка, складзеная з сілікатнай шэрай цэглы. Аднак бачна, што зусім нядаўна гэтая хрушчоўка, як кажуць, «паднялася». Цэнтральны ўваход упрыгожаны белымі панэлямі з пластыка, новыя шакаладнага колеру дзверы, сцены калідораў свежапафарбаваныя, падлога блішчыць толькі што пакладзенай пліткай, на вокнах модныя вертыкальныя жалюзі. Карацей, не раддом у пралетарскім раёне, а офіс сумеснага прадпрыемства на цэнтральнай магістралі сталіцы.

Персанал, здаецца, таксама замянілі разам з фіранкамі. Заўсёды гаварлівыя акушэркі як вады ў рот набралі. *«У нас звычайны раддом, рамонт зрабілі планавы, а больш інтэр'ю даваць не будзем»*, — жанчыны ў белых халатах трымаюцца, як юнак на допыце. Аказваецца, служба бяспекі прэзідэнта, што ўстанавіла ў раддоме свой пост, забараніла медыкам усякія кантакты з прэсай. Як сказалі карэспандэнту НАВІНАЎ, роды ў Ліліі Лукашэнкі прайшлі своечасова і нармальна, дзяўчынка «выдатных параметраў». Зараз Ліля ўжо сама корміць дачушку, якая на матчыным малацэ хутка набірае вагу.

Нагадаем, што ажаніліся Ліля Сомава і Віктар Лукашэнка 25 ліпеня мінулага года. Маладыя нейкі час жылі ў Рыжкавічах у цешчы, а потым перабраліся ў Мінск.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Улады спалохаліся выбараў

Цэнтральная выбарчая камісія, нягледзячы на арышт свайго старшыні Віктара Ганчара, сабралася заўчора на запланаванае пасяджэнне. На гэтым пасяджэнні Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў 2 ініцыятыўныя групы кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах 16 траўня: старшыні БНФ Зянона Пазьняка і былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра.

Віктар Ганчар быў затрыманы прыблізна за 3 гадзіны да пасяджэння чатырма спецназаўцамі ў раёне сталічнай плошчы Перамогі. Затрыманне было ўчынене ў грубай форме: у аўтамабілі Ганчара разбілі шкло, выцягнулі Ганчара і завалаклі ў машыну, якая даставіла старшыню Цэнтрвыбаркама ў гарадскі аддзел міліцыі, дзе над Ганчаром адбыўся суд.

Насуперак закону, судовае пасяджэнне было закрытым. Як сказалі амонаўцы, якія стаялі ля ўваходу ў аддзел, ім загадана не пускаць у памяшканне нікога з пабочных асобаў, — а ў першую чаргу журналістаў.

Суддзя Ленінскага райсуда Валянціна Зяньковіч прызнала Віктара Ганчара вінаватым у парушэнні парадку правядзення сходаў. Прысуд — 10 сутак зняволення.

Гэты ж артыкул інкрымінаваўся і іншым членам Цэнтрвыбаркама, якія ўдзельнічалі ў пасяджэнні ў мінскім кафэ «Калізей» на мінулым тыдні. Які В.Ганчару, астатнім таксама быў прызначаны суд на першую палову дня. Спачатку, яшчэ пад кіраўніцтвам Ганчара, цэнтрвыбаркамаўцы дружна выйшлі на суд не з'яўляцца.

Пасля арышту В.Ганчара камісія сабралася пад старшынствам Іосіфа Навумчыка. Члены Цэнтрвыбаркама зайшлі ў аўтобус, які павінен быў адвезці іх у месца, прымеркаванае для пасяджэння, — але нікуды не паехалі і правялі пасяджэнне проста ў транспартным сродку. Зарэгістраваўшы ініцыятыўныя групы М.Чыгіра і З.Пазьняка, Цэнтрвыбаркам падвячорак прыбыў у суд. *«Галоўнае, што ўлады не здолелі перашкодзіць нам правесці пасяджэнне і зарэгістраваць ініцыятыўныя групы кандыдатаў у прэзідэнты. А цяпер да канца сакавіка, пакуль будуць збірацца подпісы за кандыдатаў, роля Цэнтрвыбаркама не надта істотная. Таму мы можам дазволіць сабе раскошу з'явіцца ў суд»*, — патлумачыў член камісіі Барыс Гюнтэр.



*Міліцыянты фатаграфуюць сляды гвалтоўнага затрымання старшыні ЦВК Віктара Ганчара.*

Па словах Б.Гюнтэра, *«пры затрыманні Ганчара міліцыянты скралі дакументы Цэнтрвыбаркама* (на якія, праўда, маюцца дублікаты) *і грошы»*.

Працэсы, што праводзіла ў судзе Ленінскага раёна Алена Царашкова, сталіся вельмі аднатыпнымі. Член Цэнтрвыбаркама сядаў на лаву падсудных, на спіцы якой красаваўся вялікі чорны надпіс «Лука шыз». Ніхто не адмаўляў свайго ўдзелу ў пасяджэнні і ніхто не прызнаў сябе вінаватым, паколькі Цэнтрвыбаркам дзейнічае згодна з пастановаю Вярхоўнага Савета і ў межах заканадаўства. Падсудныя спасылаліся на Закон аб мітынгах, дэманстрацыях, вулічных шэсцях і сходах, дзе наўпрост зазначана, што ўсталяваны там парадак не распаўсюджваецца на сходы ў закрытых памяшканнях.

Цэнтрвыбаркамаўцы адзначалі неадэкватныя паводзіны міліцэйскага палкоўніка Баранава, які кіраваў іх затрыманнем на мінулым тыдні. Падсудныя заяўлялі, што палкоўнік вельмі нерваваўся, бегаў вакол стала, ламантаваў нешта невыразнае, толькі амонаўцы, якія расказвалі, што мелі ад камандзіра роты маёра Барсукова загад затрымаць удзельнікаў несанкцыянаванага сходу ў кафэ «Калізей», які загад і выканалі. Ніхто з падсудных пытанняў сведкам не задаваў.

Усе падсудныя былі прызнаныя вінаватымі ў парушэнні парадку правядзення сходаў. Тое ж самае адбылося і ў гарадскім аддзеле міліцыі, дзе на «ніве правасуддзя» арала Валянціна Зяньковіч.

Такім чынам, чатыром сябрам Цэнтрвыбаркама прысудзілі штраф у 30 млн. рублёў, дваім — у 20 млн.; І.Навумчыку зрабілі пэўную палёгку (як патлумачыла суддзя А.Царашкова, улічаны яго пенсійны ўзрост і кепскі стан здароўя) — 15 млн. Да трох жанчын, што ўдзельнічалі ў пасяджэнні, рэжым нават праявіў нейкую вывернутую галантнасць: тут абмежаваліся папярэджаннямі. Затое С.Абадоўскі, Б.Гюнтэр і А.Гурыновіч атрымалі па 5 сутак арышту. Хаця, параўноўваючы судовыя пасяджэнні, застаецца абсалютна незразумелым, чым менавіта гэтыя людзі правініліся больш за астатніх. Б.Гюнтэр ахарактарызаваў рашэнне суда як «бандытызм».



*Амонаўцы разбілі шкло ў аўтамабілі В.Ганчара. У машыне знойдзеныя сляды крыві.*

У якасці сведкаў выступалі не прад'яўляў ніякіх дакументаў і наогул адмовіўся тлумачыць, на падставе чаго ён дзейнічае. Амонаўцы ж, па словах падсудных, паводзілі сябе карэктна.

Члена Цэнтрвыбаркама Алега Волчака, які з'яўляецца дэпутатам гарсавета, выклікалі для тлумачэнняў у гарпракуратуру. *«Той факт, што міліцыянты ўварваліся ў закрытае памяшканне і затрымалі людзей толькі на падставе, што яны нешта абмяркоўвалі ў кафэ, з'яўляецца грубым парушэннем заканадаўства і правоў чалавека»*, — сцвярджае А.Волчак, юрыст па адукацыі. Учора стала вядома, што пракурор горада Мінска фактычна пазбавіў А.Волчака дэпутацкага імунітэту. У час падпісання нумара ў друк пачаўся судовы працэс над дэпутатам гарсавета.

Усе арыштаваныя, уключаючы Віктара Ганчара, знаходзяцца ў ізалятары на вуліцы Акрэсціна. Як паведаміла Зінаіда Ганчар, у першы дзень ёй не дазволілі перадаць мужу ў камеру неабходныя рэчы. Па нашых звестках, да В.Ганчара не дапусцілі адваката Гары Пагавяйла.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**



## Чакаецца паводка

Міністр па надзвычайных сітуацыях Валерый Астапаў наведвае раёны, якія могуць найбольш пацярпець ад сёлетняй паводкі. Сёння ён планує правесці спецыяльную нараду з прадстаўнікамі выратавальных службаў Столінскага, Пінскага, Лунінецкага і іншых раёнаў Брэсцкай вобласці.

Як нам паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны некаторыя тэрыторыі Брэстчыны былі затопленыя з восені, і вада тут дасягае 20—45 сантыметраў. Трывожныя сігналы паступаюць з суседняй Украіны, дзе на рэках адбылся пад'ём вады ад 50 см. да метра. Уся гэтая вада хутка прыйдзе на Брэстчыну. Мясцовыя ўлады спяшаюцца прывесці ў парадак дамбы і шлюзы.

Не чакаючы разліву рэк, службы грамадзянскай абароны збіраюцца перавезці цяжкахворых, а таксама цяжарных жанчын у стацыянары бальніц. У бяспечныя месцы будзе эвакуявана калгасная жывёла. Акрамя таго, пачалося назапашванне прадуктаў харчавання, медыкаментаў (у першую чаргу супраць грыпу), а таксама цёплага адзення і абутку. Вядуцца перамовы з войскамі пра выдзяленне плаўсродкаў.

Асаблівая небяспечнай чакаецца паводка ў Столінскім раёне. У пойме ракі Гарынь (прыток Прыпяці) жыве адна сям'я, якую падтапляе штогод, аднак доўгі час улады не пагаджаліся дапамагчы ў будаўніцтве для гэтай сям'і новага дома ў бяспечным месцы. Сёлета ж абяцаюць распачаць гэтую будоўлю. У Жыткавіцкім раёне В.Астапаў звярнуў асаблівую ўвагу на возера Чырвонае ў басейне Прыпяці, якое можа выйсці з берагоў. Тут даручана правесці прафілактычныя мерапрыемствы.

У Белгідраметцэнтры сцвярджаюць, што сёлета «воднасць рэк высокая, вада выйдзе на пойму і нават падтопіць некаторыя населеныя пункты». Паводка чакаецца ў другой палове сакавіка. Найбольшую небяспеку ўяўляе Прыпяць для Пінскага, Жыткавіцкага, Столінскага, Петрыкаўскага, Мазырскага, Калінкавіцкага, Лунінецкага і Акцябрскага раёнаў. У басейне Дняпра чакаецца выхад вялікай вады ў Лоеўскім раёне. Наогул, воднасць рэкаў у паўтара — тры разы перавышае звычайны ўзровень для пачатку сакавіка. Паводка можа закрануць і басейны іншых беларускіх рэкаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

**Юры ХАДЫКА**

# Фармулёўка нацыянальнай ідэі

*(Працяг. Пачатак у № 20-22)*

Для ўсведамлення нашай самабытнасці карысна паглядзець на нашых суседзяў — Расію і Польшчу: як суадносіцца беларуская нацыянальная ідэя з ідэямі бліжэйшых суседзяў. Прасцей пачаць з Расіі. І таму, што яе самастойная дзяржаўнасць непарыўная з канца 15 ст., і таму, што яна была адлітая ў чаканныя фармулёўкі, якія даюць зручныя магчымасці для параўнання.

Пачалося з царкоўна-геапалітычнай канцэпцыі, сфармуляванай пры Іване III. «Масква — трэці Рым, а чацвёртаму не бываць». Відавочнае паходжанне гэтай канцэпцыі ад імігрантаў — грэчаскага святарства, вымушанага пакінуць Канстанцінопаль (Другі Рым), які захапілі туркі. Іван III аказаўся дальнабачным дзеячам. Разарваўшы свой першы шлюб, ён ажаніўся з пляменніцай апошняга візантыйскага імператара і атрымаў магутную ідэалагічную зброю. На працягу трох дзесяцігоддзяў ён падпарадкаваў сваёй уладзе усе «рускія» (праваслаўныя) княствы і скінуў уладу Залатой Арды. Царкоўная канцэпцыя стала дзяржаўнай, прывяла да стварэння незалежнай нацыянальнай дзяржавы і заклала грунт для імперскай агрэсіўнай палітыкі.

Можна бясконца спрачацца аб гістарычнай непазбежнасці заснавання Масквой імперскай сакральнай ідэалогіі, але відавочна, што менавіта яна ператварыла дробнае, перыферыйнае княства ў сэрца магутнай дзяржавы і сфармавала вялікарускую нацыю. Крыху мяняючыся з цягам часу, яна захавала свой уплыў да сённяшняга дня.

І мы бачым, як пакутуе свядомасць рускага насельніцтва Расійскай Федэрацыі ад страты ёю статусу звышдзяржавы. Як лёгка ва ўгоду імперскім амбіцыям ахвяруюцца сапраўдныя інтарэсы народа. Як амаль усе палітычныя дзеячы Расіі дэкларуюць галоўнай часткай сваіх праграмаў аднаўленне велічы Расіі, што заўсёды разумелася як яе ваенная моц.

У 19 ст. імперская ідэалогія была адлітая ў добра вядомую формулу нацыянальнай ідэі: праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць. Гэтая трохчастковая формула вельмі паказальная. Кожная яе частка поўная сэнсу, які раскрываецца ў многіх праявах расійскай культуры, палітыкі, псіхалогіі. Кожны беларус мусіць прымерыць гэты мундзір на сябе, перш чым пагаджацца на інтэграванне ў Расію. І даць сабе адказ, ці не муляе яму гэтая ўніформа.

Пачнем з праваслаўя. На Захадзе ўсходне-хрысціянскія цэрквы завуць артадаксальнымі, што азначае традыцыйныя, нязменныя. Але рускі адпаведнік зусім іншы. Праваслаўе азначае адзіна правільнае веравызнанне. Прэтэнзію на выбранасць і зародак агрэсіўнасці. У звычайным ужытку яно набывае яшчэ больш прэтэнцыйны характар. Паслухайце праваслаўных святароў, што па маскоўскім тэлебачанні, што па беларускім радыё. Яны гавораць — праваслаўная вера. Такое словазлучэнне, найменш — багахульства. Бо вера ва ўсіх — праваслаўных, каталікоў, пратэстантаў — адна, хрысціянская. І гэты пераход ад адзіна правільнай царквы да асобнай правільнай веры даваў падставу для яе распаўсюджання не толькі сярод хрысціянскіх, але і мусульманскіх народаў. Служыў апраўданнем для імперскай палітыкі на Захадзе і Усходзе.

Самадзяржаўе — гэта адкрытае адмаўленне рэспубліканскай формы ўлады і дэмакратыі. Канцэпцыя адзінага хрысціянскага ўладара, памазаніка божага, запазычана з дзяржаўнай палітыкі Другога Рыма (Канстанцінопаля), які знішчыў усе рэспубліканскія традыцыі Рыма Першага. Гэта канцэпцыя закрытага грамадства, дзе інфармацыя фільтруецца, скажаецца, падвяргаецца ідэалагічнай апрацоўцы. Адсюль устойлівая традыцыя баек пра «добрага цара-бацюхну» і дрэнных баяраў. Адсюль усе расійскія пакуты з увядзеннем дэмакратычнага ладу, кпіны з любых формаў парламентарызму. Самадзяржаўе разам з праваслаўем нараджаюць надзвычай кансерватыўную сацыяльную структуру, якая не мае ўнутраных рэзерваў для рэфармавання.



*Польская «Салідарнасць»*

Народнасць нельга зразумець інакш чым рэшткі хрысціянскага сацыялізму. Канцэпцыя саборнасці, перавага правоў і інтарэсаў супольнасці над правамі і інтарэсамі асобы. Да поўнага іх ігнаравання. Сталінская тэорыя «вінцікаў» цалкам адпавядае народнасці. Ад сярэднявечнага хрысціянскага «сацыялізму», які праз заканадаўчыя акты Візантыі сапраўды бараніў інтарэсы слабейшых і абмяжоўваў рост багацця, але не падаўляў прыватную ініцыятыву, «народнасць» пакінула толькі бясправе асобы і яе нікчэмнасць перад тварам дзяржавы.

Руская нацыянальная ідэя, якая фармавалася элітай Расійскай імперыі, моцна адбілася на нацыянальным характары і псіхіцы рускага народа. Выдатны сучасны расійскі культуролаг С.Аверынцаў у адной з сваіх працаў вобразна патлумачыў розніцу духоўнага свету і псіхафізічных рэакцыяў усходняга і заходняга хрысціяніна. Уявім сабе эфір ідэяў, часта супярэчлівых — антынамічных, і ўкропленыя ў яго сферы духоўнага жыцця чалавека. У каталікоў гэтыя сферы маюць канечныя памеры. Канфліктныя ідэі, што пранікаюць у іх сэрцавіну, паступова змякчаюцца. У праваслаўных гэтыя сферы вельмі малых памераў. У ідэале яны сціскаюцца ў кропку, таму супярэчлівасць ідэяў праваслаўнымі ўспрымаецца вельмі востра. Па сутнасці, гэта геаметрычны вобраз, які тлумачыць розніцу паміж рацыянальным і ірацыянальным успрыняццем супярэчнасцяў жыцця. Ён тлумачыць, чаму для рускага чалавека характэрныя рэзкія пераходы ад любові да нянавісці, ад безагляднай смеласці да панікі, ад шалёнай актыўнасці да бязвольнай пасіўнасці, ад рабскай пакорлівасці да бунта. Адсюль імкненне да роўнасці ў жабрацтве і нянавісць да багацця.

Усе гэтыя праявы «шырокай рускай душы» добра ведае кожны беларус. Аднак уявіць сабе тыповага беларуса, які рве на грудзях рубаху, так сама цяжка, як тыповага рускага, які ўпарта працуе ў калгасе, не атрымліваючы заробку. Ці масквіча, які пераходзіць вуліцу толькі на зялёнае святло. Нездарма беларускія салдаты што ў царскім, што ў савецкім войску лічыліся самымі лепшымі з-за дысцыплінаванасці, стойкасці і адукаванасці.

Было б не кепска, калі б кожны беларус прымерыў на сябе «шырокую» рускую душу і вырашыў, ці пасуе яна яму. Аб'ектыўна яна не горшая за ягоную ўласную. Проста іншая. А зразумеўшы гэта, яшчэ ўлічыў, што душа — рэч не матэрыяльная. Яна фармуецца выхаваннем, адукацыяй, сацыяльным асяродкам, дзяржаўнай палітыкай. Гэтая апошняя і скіраваная сёння на тое, каб беларусы згубілі сваю душу. Таму размова пра беларускую нацыянальную ідэю — актуальная. Яна вымагае ад усіх, хто не хоча чужой душы, упартай духоўнай працы.

Польская нацыянальная ідэя не адлівалася ў такія чаканныя фармулёўкі, як руская. Аднак можна рэканструяваць польскую нацыянальную ідэю, не прэтэндуючы на тое, што з ёю пагодзіцца кожны паляк ці польская эліта. Галоўнае тут не ў абсалютнай дакладнасці, а ў адпаведнасці яе таму ўяўленню аб польскай культуры і нацыянальным характары, якія мае кожны беларус.

Першым складнікам тут, безумоўна, будзе каталіцызм. Канцэпцыя гэтага веравызнання, якая сцвярджае незалежнасць духоўнай улады ад улады свецкай, не дазваляе палякам сакралізаваць дзяржаву, разглядаць дзяржаўны лад як угодны Богу і незалежны ад волі грамадзянаў. Таму яны аказаліся ў стане двойчы за апошнія 200 гадоў перажыць перыяды іншаземнага панавання і без грамадзянскіх канфліктаў аднавіць сваю незалежную дзяржаўнасць.



*Руская «Саборнасць»*

Палякі — традыцыяналісты, што, дарэчы, таксама вынікае з іх веравызнання. Таму яны не толькі ведаюць і любяць сваю гісторыю, шануюць і ахоўваюць помнікі культуры. Але, кожны раз аднаўляючы сваю дзяржаву, кожны раз аднаўляюць яе назву — Рэч Паспалітая (рэспубліка). Рэспубліканскі лад, альтэрнатыўны самаўладдзю, — гэта другі складнік польскай нацыянальнай ідэі. Гэта ў большай меры панаванне закона, а не волі. Гэта парадак, які дае прастору ініцыятыве і самастойнасці.

У польскай нацыянальнай ідэі няма адпаведніка народнасці. Палякі непараўнальна больш індывідуалісты, чым рускія. Іхні індывідуалізм зусім не выключае ні салідарнасці, ні гасціннасці, ні спачування. Але адліваецца ў якасць нацыянальнага характару, якая часам раздражняе беларусаў. Гэтая якасць — пачуццё асабістай годнасці, схільнасць дэманстраваць сваю культурную перавагу. Апошняе наогул не ўласціва людзям высокакультурным, але праяўляецца як простанародная рэакцыя на непрымальную чужародную культуру.

Такім чынам, польскую нацыянальную ідэю я б сфармуляваў так: каталіцызм, рэспубліка, годнасць (альбо салідарнасць). Бо салідарнасць ёсць форма сацыялізацыі годных людзей.

У супастаўленні з прыкладам суседзяў і абапіраючыся на свой гістарычны вопыт, можна вызначыць і галоўныя складнікі беларускай нацыянальнай ідэі.

Першы, безумоўна, светапоглядны. Беларусь — краіна шматканфесійная, але пераважна хрысціянская. Аднак бессэнсоўна казаць — хрысціянства. Бо і каталікі, і праваслаўныя, і пратэстанты — хрысціяне. Нашая галоўная гістарычная заваёва — талерантнасць, верацярпімасць. Гэта ўражальна адрознівае нас як ад Расіі, так і ад Польшчы. Беларуская дзяржава мусіць быць толькі свецкай. З поўным аддзяленнем царквы ад дзяржавы. Прыкладна ў такой ступені, як у ЗША. І, зразумела, без казанняў прэзідэнта ў храмах.

Не трэба атаясамліваць талерантнасць з лагоднасцю, рахманасцю, абыякавасцю. Талерантнасць — гэта супрацьстаянне гвалту, культу сілы, самадастатковасць уласнага светапогляду. Адкрытасць да прымальных культурных уплываў і ашчаднае зберажэнне сваіх каштоўнасцяў. Талерантнасць — прыкмета дэмакратызму, павагі да самакаштоўнасці асобы і ведаў. Гэта — годнасць, пазбаўленая агрэсіўнага адцення перавагі. Усе гэтыя якасці ўласцівы традыцыйнай беларускай культуры як у яе элітарных формах, так і ў народным мастацтве.

Для Беларусі чужое самаўладдзе. Але і рэспубліканскія традыцыі слабыя. Таму дзяржаўным структурным прынцыпам можа быць толькі дэмакратыя. Дэмакратыя больш расплывісты тэрмін, чым рэспубліка. Яна вагаецца паміж ахлакратыяй (пастка, у якую Беларусь і трапіла) і парламентарызмам. Традыцыі парламентарызму ёсць у нашай гісторыі. На іх трэба і абаперціся, будуючы незалежную Беларусь. Але перш яны павінны быць рэабілітаваныя ў вачах людзей. І гэтая неабходнасць накладае на беларускую эліту вялікую адказнасць. Выхаваць палітычную культуру, павагу да партыяў, да іх грамадскай адказнасці, растлумачыць сутнасць і перавагі прадстаўнічай заканадаўчай улады перад вечам і яго сучаснай рэалізацыяй у выглядзе нічым не абмежаванага і за ўсё адказнага прэзідэнта — яе абавязак. Пабудаваць парламенцкую рэспубліку і ліквідаваць самаўладдзе неабходна, каб вярнуць Беларусь у Еўропу і рэалізаваць яе нацыянальную ідэю.



*Беларуская «Талака»*

Адпаведнік трэцяму складніку прынятай намі форму-лы нацыянальнай ідэі характарызуе ступень сацыялізаванасці беларускага грамадства. Безумоўна, беларусам не ўласцівыя ні аднастайнасць «народнасці», ні высокая ступень грамадзянскай «салідарнасці». Працяглая адсутнасць незалежнай дзяржаўнасці і нацыянальнай эліты, шматканфесійнасць насельніцтва спрыялі выпрацоўцы спецыфічнай формы сацыялізацыі — талакі. Гэтая форма салідарнасці ўласцівая не толькі вясковым супольнасцям, але і вытворчым калектывам, яна праглядаецца і ў такой форме нацыянальна-вызвольнага змагання, як партызанская барацьба.

Талака ёсць сродак дасягнення мэты, абмежаваны ў часе і прасторы. Сама яе няўстойлівасць і дынамічнасць — гарантыя ад стварэння іерархічнага каставага грамадства, што з'яўляецца хваробай «народнасці». Талака можа набываць і агульнанацыянальны характар. Толькі талакою можна скінуць калабаранцкі рэжым.

Такім чынам усё разумеючы, можна сцвярджаць, што стрыжнем беларускай нацыянальнай ідэі сёння ёсць змаганне за незалежную беларускую дзяржаву. Яе змест — нацыянальна-культурнае адраджэнне, стварэнне нацыянальнай эліты. Яе формула, якая фіксуе галоўныя нацыянальныя каштоўнасці: талерантнасць, дэмакратыя, талака.

Зразумела, я не маю і ценю прэтэнзіі на тое, што такі найскладанейшы комплекс уяўленняў, як нацыянальная ідэя, можа быць вычарпаны трыма словамі, і на тое, што выбраныя мною сінонімы тых паняццяў, якія яны адлюстроўваюць, найлепшыя.

ПЕРАКЛАДЫ

# Лукашэнка баіцца



Былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч даў нядаўна інтэрв'ю польскай *Gazecie Wyborczej*, у якім распавёў аб падрыхтоўцы апазіцыі да маючых адбыцца 16 траўня прэзідэнцкіх выбараў. Прапануем увазе чытачоў скарочаны пераклад гэтага інтэрв'ю.

**Кар: Аляксандр Лукашэнка лічыць, што тэрмін яго ных паўнамоцтваў скончаецца толькі праз два гады. Чаму ВС Беларусі хоча правесці прэзідэнцкія выбары ў траўні?**

**Ст.Шушкевіч:** Мы абавязаныя іх правесці, таму што згодна з Канстытуцыяй яны павінны адбыцца менавіта ў гэты тэрмін. А калі гаварыць аб так званым рэферэндуме, што быў 2 гады таму, і выніхі якога былі сфальсіфікаваныя, то, паводле сацыялагічных даследаванняў, 80 працэнтаў прыхільнікаў цяперашняга прэзідэнта, якія ўдзельнічалі ў ім, не мелі паняцця, што згаджаюцца на працяг паўнамоцтваў Лукашэнкі. Да ўсяго і цяперашняя канстытуцыя, уведзеная ў дзеянне пасля рэферэндуму прэзідэнцкім дэкрэтам, не з'яўляецца законнай. Таму наш абавязак прызначыць прэзідэнцкія выбары. Прызнаюць гэта ўсе цывілізаваныя дзяржавы.

**— А ці хопіць у апазіцыі сіл, каб правесці такія выбары?**

— Упэўнены: не трэба пачынаць, калі не бачыш шанцаў дасягнуць поспеху. Мы іх бачым і лічым, што сілаў у нас хопіць.

**— Але ж Аляксандр Лукашэнка не будзе сядзець склаўшы рукі і глядзець, як вы рыхтуеце выбары?**

— Зразумела, што будзе ён рабіць усё, каб іх сарваць. Напрыклад, ягоная прапаганда і, на жаль, некаторыя падманутыя заходнія СМІ распаўсюджваюць абсалютна беспадстаўны міф, быццам бы Лукашэнку падтрымлівае большасць народа Беларусі. Калі б так было, Лукашэнка не баяўся б гэтых выбараў. А ён баіцца. Бо калі будуць справядлівыя выбары, ён іх прайграе, і прычым з трэскам. Ягоны страх выкліканы стратай падтрымкі насельніцтва, паколькі ўзровень жыцця беларусаў катастрафічна знізіўся.

**— Вы сказалі «заходнія СМІ», і польскія ў тым ліку?**

— На шчасце, я не магу абвінавачваць польскіх журналістаў у неразуменні беларускіх падзеяў. Я казаў аб нямецкіх журналістах, якія публікуюцца на старонках польскіх газетаў, і канкрэтна меў на ўвазе нядаўні артыкул Клауса Бахмана ў *Rzeczy Pospolitej*. Паводле таго, што там напісана, беларусы нараджаюцца ідыётамі, якім не трэба ні свабоды, ні дэмакратыі, ні лепшай будучыні. Гэта недапушчальнае ачарненне майго народа. Я б ніколі сабе не дазволіў падобным чынам абражаць немцаў. Немцы падчас свабодных выбараў абралі канцлерам Гітлера, але нельга іх за гэта абвінавачваць. Кожны народ можа памыліцца. Але калі дэмакратычная сістэма функцыянуе нармальна, людзі могуць выправіць памылку на наступных выбарах. Таму мы хочам цывілізаваным чынам давесці, што думаюць грамадзяне нашай краіны. Калі захочуць, маюць права зноў абраць Лукашэнку, але не зробяць гэтага.

**— Для таго, каб правесці выбары, патрэбныя адпаведныя сродкі і структуры.**

— Натуральна. Мы ўжо стварылі ўсе акруговыя выбарчыя камісіі, якіх больш за 180. У людзей ёсць вялікі энтузіязм, яны хочуць дзейнічаць, прычым дзейнічаць цывілізавана, а не з дапамогай сілы. Выбары — гэта спосаб даказаць, што ў Беларусь можа вярнуцца дэмакратыя.

**— Ці пацвярджаюць вашыя словы даследаванні грамадскай думкі?**

— Такія даследаванні могуць быць незалежнымі толькі тады, калі іх праводзіць не дзяржава. А я пакуль аб такіх не чуў. Незалежных даследаванняў нельга правесці, калі няма незалежных СМІ. А ў Беларусі іх няма. Найбольш незалежныя газеты кожны тыдзень дакладваюць пракуратуры, што не парушалі беларускага заканадаўства. А беларускае заканадаўства — гэта дэкрэты прэзідэнта Лукашэнкі.

**— А ці дапускаеце вы магчымасць, што выбары не адбудуцца? Рэпрэсіўны апарат Лукашэнкі дзейнічае зусім не дрэнна.**

— Калі б мы паводзілі сябе так, як таго хоча Лукашэнка, тады б ён, безумоўна, пачаў бы рэпрэсіі. Напрыклад, калі б мы выйшлі на вуліцы. Але ж мы абралі іншыя метады. Немагчыма да кожнай выбарчай камісіі прыставіць атрад амонаўцаў. Мы робім усё ў адпаведнасці з законам, і пракурору няма да чаго прычапіцца.

**— Калі захоча, то заўсёды штосьці-небудзь знойдзе.**

— Мы гэта разумеем. Але калі пратэсты праходзяць толькі ў Мінску, то іх лёгка падавіць. Калі ж акцыі пачнуцца па ўсёй Беларусі, то спыніць іх будзе значна цяжэй. Аднаго міністра ўнутраных справаў Лукашэнка ўжо выкінуў, бо той не спраўляўся. Лічу, што ў бліжэйшы час ён выганіць таксама і шэфа КДБ.

**— І што далей?**

— Разлічваем на ўласныя сілы. Палякі ж вызваліліся ад таталітарызму і не перашкодзіла ім у гэтым нават вайсковае становішча.

**— Ці чакаеце вы дапамогі з боку Польшчы?**

— Палякі лепей нас разумеюць, чым Заходняя Еўропа. Можа, таму было б добра, каб вы дапамаглі ў разбурэнні ўсё яшчэ жывых міфаў, што беларусы не патрыёты, што яны ніколі не пратэстуюць і што не маюць пачуцця нацыянальнай свядомасці. Нядаўна наш легітымны парламент прыняў рашэнне адкрыць прэс-цэнтры ў Маскве, Кіеве, Вільні і Варшаве. Натуральна, што ў інфармаванні Захаду мы найбольш разлічваем на варшаўскі цэнтр.

Гутарыла Ірэна **ЛЕВАНДОЎСКА**

ЧЫТАЦКАЯ ДУМКА

# Будзеш глінай – пойдзеш у печ

**Усе ведаюць стан невідушчасці, калі нехта падкрадаецца, закрывае вам далонямі вочы і скажоным голасам прапануе адгадаць аўтара жарту. І вы, пазбаўленыя зроку, пачынаеце пералік дарагіх вам іменаў, а ўрэшце аказваецца, што з вамі жартаваў малазнаёмы ды надта брыдкі блазен.**

Прыкладна ў такую гульню з нашым народам гуляе абраная народам улада. Яна дбае пра народную невідушчасць мностваам учэпістых рук, кожная з якіх мае назву дзяржаўнага ці грамадскага інстытута (паліторганы, органы МУС, тэлебачанне, царква, прастытуіраваныя інтэлектуалы, секс- і поп-зоркі).

Зараз улада (найбуйнейшая бюракратыя РБ) старанна пазбаўляе зроку мільёны людзей, каб яны не ўцямілі, на якое таргавішча вядзе іх на продаж прэзідэнт. Просты чалавек можа і адчувае, што вядуць горасным шляхам, ды церпіць: *«Што зробіш? Проці лома няма прыёма! Былі правы – юрысты з'елі!»* І мала хто ўзгадвае свае правы, нададзеныя прыродай, правы, якія магчыма адняць толькі разам з жыццём, — права не быць глінай, з якой ліхі майстра лепіць гаршок, каб паставіць у сваю печ, ці цацку — гліняная беларуса з свістулькай замест галавы. Зараз прэзідэнт, быццам біблейскі прарок, пераконвае нас, што запаветная зямля — гэта Славянскі Саюз Расіі і Беларусі, патрапім туды — на нас пасыпяцца і манна, і шчасце! Некаторыя радуюцца: во добра — і хадзіць па пустыні не трэба, як яўрэі хадзілі, сядзі ў хаце, чакай. Чаму б не задумацца нашым наіўным людзям: з чаго стане лепшым жыццё для іхніх дзетак, калі ў суседніх славянаў кепска жывецца дзеткам уласным? Большыня з нас як была рабамі, так і застанецца. Усіх пераменаў — ад школе браць хабар і даваць хабар? А ці вучылі прэзідэнта будаваць сабе рэзідэнцыю за рэзідэнцыяй, калі многія лічаць за абноўку чужыя старыя лахманы.

Можа хоць раз за жыццё здзівіся, чалавеча, па якім праве вышэйшы дзяржаўны чыноўнік, абраны на 5 гадоў улады, хоча сядзець на тваіх плячах 7 гадоў. Падумай і сваіх чыноўнікаў адыдуць да саюзных падаткі, грошы, войска, і тыя будуць вырашаць, чаго і колькі пакласці ў кармушку для беларускага каня.



*Грозны. Захаваная канстытуцыйная прастора.*

Можа хто запярэча: не вучаць на такіх ерэтыкоў, каб касіліся на Саюз! А хіба вучылі ў школе, што старыя нашы бабулі павінны гандляваць цыгарэтамі на вулках, ветэраны вайны з нашыўкамі за цяжкія раны прасіць міласціну каля рынкаў, а сацыяльна слабыя рыцца ў сметніках у пошуках цэлай бутэлькі. А ці вучылі ў ўзрадуйся, што ты пакуль яшчэ не баск, прыціснуты іспанцамі, не курд, у якога страляюць туркі ды іракцы, не чачэн, хату якога разваліў расійскі «Ураган».

Любіш сваіх родных — не сдавай чужынцам сваю зямлю. Яны ж нікому не здаюць сваю. Маеш за што стаяць за сябе, сваю годнасць, небяспеку сваёй сям'і, сваю краіну. Скінь з вачэй мажныя далоні ўлады, бо той, хто закрывае табе вочы, смяецца з цябе.

**Павел КАРПОВІЧ,**
*г. Слонім*

ЗДАРОЎЕ

# Спасительная рутина

За последние 25 лет энергетические расходы жителей индустриально развитых стран сократились на 800 калорий в день. И даже если ценой героических усилий им удается снизить потребление калорий на 100 единиц в день, у них сохраняются отличные шансы поправляться на 4,5 килограмма за год.

Избегает этой участи лишь одна пятая американцев, которым действительно удалось приучить себя к регулярным занятиям спортом. Еще 20 процентов худеть и не пытаются. А уже описанные 60 процентов своими героическими, но кратковременными порывами наносят своему здоровью достаточно ощутимый ущерб.

Тем не менее проблема решаема, и даже без дополнительных затрат времени. Для этого нужно лишь отказаться от пультов дистанционного управления, от телефонов с радиотрубками, от моющих пылесосов и посудомоечных машин. Если вместо того, чтобы общаться с сотрудницей, сидящей в соседней комнате, по телефону, вы подойдете к ней, потратив на это как минимум 2 минуты в час, за неделю вам удастся сжечь калорий не меньше, чем за время полноценного сеанса аэробики. И это еще не все. Ведь, возможно, таким образом вам удастся избавиться от головной или шейной боли.

Среднестатистическая женщина проводит за телефоном 34 минуты в день. При этом она не только самым противоестественным образом выворачивает голову и поджимает плечи, но чаще всего еще и проделывает что-то не очень полезное со своим позвоночником, разваливаясь в кресле или облокачиваясь на спинку стула. В результате врачи даже стали выделять так называемые «телефонные» мышцы, на которые приходится максимальная специфическая нагрузка. А ведь для того, чтобы разгрузить их, опять же не требуется никаких чрезмерных усилий. Разговаривать по телефону лучше всего стоя, постоянно перекладывая телефонную трубку из одной руки в другую.

Если разговор затягивается, свободной рукой желательно помассировать себе заднюю часть шеи. При этом не только снимается напряжение в самой шее, но и улучшается кровоток в плечевом поясе. После окончания разговора обязательно сделайте несколько боковых наклонов головой, приподнимите плечи, сделайте круговые движения руками.

Естественно, для секретарш и диспетчеров, которые проводят с телефонной трубкой около уха практически весь рабочий день, таких простых мер недостаточно. Если у них нет возможности пользоваться телефоном с громкоговорителем, рекомендуется по крайней мере обеспечить подставку такой высоты, чтобы руку во время разговора не нужно было держать на весу. Как минимум каждый час желательно делать себе расслабляющий массаж шеи либо при помощи массажных роликов, либо при помощи электромассажера. Кроме того, нужно приучить себя не хвататься за трубку после первого же звонка. Отвечать можно лишь после глубокого вдоха и секундной концентрации. В результате «телефонный стресс», который грозит многим представительницам «телефонных специальностей», сводится к минимуму. Возможно, вы не сразу решитесь на все подобные нововведения. Но, однажды решившись, поразитесь не только своему великолепному внешнему виду, но и вновь обретенному крепкому здоровому сну, хорошему настроению, отличной работоспособности. И в будущем, возможно, вам не составит труда отказаться от лифта и эскалатора, и даже от переполненного автобуса в пользу прогулки пешком. Ведь в результате можно не только избавиться от лишних килограммов, но и подарить себе дополнительные 20 лет здоровой полноценной жизни.

*© Mirror Weekly 1999*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 517 Нумар падпісаны ў друк 03/03/99 (15:00) Наклад — 17.450
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі